© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Павел Баракоўскі

# Дыялогі для пераацэнкі каштоўнасцяў

Мацкевич, В. В. (2010). *Переоценка ценностей в культуре и истории Беларуси*. Минск: И.П. Логвинов. 100 с.

Кнігі вельмі часта пішуцца без сур'ёзнай нагоды, бо проста не могуць не пісацца. Часам яны відавочна адлюстроўваюць амбіцыі сваіх аўтараў, а часам паўстаюць як суцэльная графаманія. Гэтая кніга ставіць перад сабой зусім іншыя задачы. Калі меркаваць паводле назвы, дык зместам яе ёсць культура і гісторыя Беларусі – дакладней, нейкая іх інтэрпрэтацыя, новая або традыцыйная. Хаця тут шмат увагі надаецца тэме пераасэнсавання нашай нацыянальнай гісторыі ды культуры, кніга насамрэч пра іншае, куды больш глабальнае, запытанне і праблему для беларусаў – пра падмурак нацыянальнай самасвядомасці.

Мы збольшага прызвычаіліся разглядаць паўставанне нацыяў, іх менталітэту і сістэмы каштоўнасцяў як нейкі зусім натуральны працэс, што амаль падсвядома ўцягвае ў свой вір носьбітаў асобных нацыянальных ідэнтычнасцяў. Але насуперак гэтаму гучыць асноўная тэза кнігі: «*Мы зыходзім з прынцыповага меркавання, што змена сэнсу і каштоўнаснага статуса таго, што транслюецца і рэалізуецца, не проста магчымая, але магчымая менавіта на рацыянальных падставах і менавіта праз камунікацыю. Гэта значыць, што пра каштоўнасці трэба і варта гаварыць і дамаўляцца. Пра каштоўнасці спрачаюцца! Каштоўнасці ды ідэалы змяняюцца ў працэсе камунікацыі*» (с. 35).

То бок мы як носьбіты культуры можам і павінны ўвесь час ставіць пад пытанне ўласныя актуальныя каштоўнасці для іх лепшай рэалізацыі сёння. Мы павінны рацыянальна падыходзіць да падвалінаў уласнай самаідэнтыфікацыі, свядома абіраючы шляхі яе канструявання. Бо ад сістэмы абраных каштоўнасцяў (напрыклад, прыярытэту свабоды ці спажывання, навукі ці духоўных практыкаў) залежыць шлях развіцця асобнай культуры і народу, яго гістарычны лёс.

Аўтар сцвярджае, што пошукі праўды і абсалютнага значэння каштоўнасцяў у гісторыі немагчымыя, бо не самі гістарычныя факты, але іх асэнсаванні, ацэнкі ды інтэрпрэтацыі кладуцца ў падмурак той

або іншай сістэмы каштоўнасцяў. І мы павінны не спрабаваць адшукаць такі належны набор фактаў, які неабвержна давядзе слушнасць толькі нашых перакананняў, бо гэта немагчыма, а зрабіць нешта цалкам адваротнае – прызнаць, што ў гісторыі існуе безліч фактаў, якія мы можам па-рознаму ацэньваць, ганарыцца імі або саромецца іх. Варта разумець, што пабудаваныя на фактах каштоўнасці толькі тады могуць сапраўды вызначаць сучаснасць і будучыню, калі перадаюцца ў традыцыі (транслююцца) і рэалізуюцца цяпер.

Нам прапаноўваецца рэканструяваць гісторыю нашых продкаў, каб адшукаць у ёй асновы сучаснага светапогляду, актуальных каштоўнасцяў ды ідэалаў. Не жыць пошукамі старадаўніх сэнсаў, якія нібыта аўтэнтычна ўтвараюць нацыянальны характар, што памылкова, «*тады як нам уяўляецца, што вастрыня дыскусіі ды матывацыя бакоў, якія бяруць у ёй удзел, палягае ў сучасным самавызначэнні і выбары шляхоў развіцця, то бок у цяперашнім і будучым часе. У гэтым сэнсе важна не толькі даць рады з тым, чым і якой была беларуская культура ў мінулым, колькі звязаць гэтае мінулае з тым, якой ёй быць у будучыні*» (с. 11).

Асноўным кірункам развіцця краіны і базавым элементам сістэмы каштоўнасцяў пэўнай часткі нацыянальнай эліты, да якой далучае сябе і аўтар, ёсць пошукі еўрапейскасці Беларусі: наяўнасць у яе гісторыі і традыцыях тых складнікаў, якія могуць дапамагчы нам сёння абгрунтаваць свае еўрапейскія ідэалы. «*Нам давядзецца пераацаніць самі праявы падабенства і адрознення. Неабходна зразумець, што нас аб'ядноўвае з еўрапейскімі краінамі – і што мы можам пакласці ў падмурак нашых традыцыяў менавіта як нашае, сваё. Нам давядзецца зразумець і праінтэрпрэтаваць нашае адрозненне ад іншых еўрапейскіх народаў*» (с. 69).

Гістарычная навука вельмі часта пішацца паводле патрэбаў той або іншай ідэалогіі. І яе прэтэнзіі на аб'ектыўны характар – гэта часцяком прыхаваная прыкмета існавання нейкай татальнай ідэалогіі, як тое было за савецкім часам. Сёння нам варта не спрабаваць выйсці за межы ідэалогіі пры разглядзе гісторыі, бо гэта, бадай, немагчыма, але дакладна акрэсліць ідэалагічную замову, якая спрычыняе наш зварот да гісторыі. Мы звяртаемся да гісторыі, каб лепш зразумець сябе цяперашніх. Таму калі мы спрабуем адчуваць сябе еўрапейцамі, дык маем поўнае права шукаць сведчанні нашай еўрапейскасці ў этнічнай гісторыі ды традыцыях. Гэта, зразумела, будзе тэндэнцыйны погляд на гісторыю, але абгрунтаваны логікаю самога звароту: мы не шукаем аб'ектыўнага шляху развіцця нацыі, бо гэта ідэалізацыя; мы спрабуем развіваць і рэалізоўваць сёння адзін з магчымых яе гістарычных шляхоў у будучыню. І гэта нашае права ды, відаць, абавязак.

Адсюль вынікае і зварот Мацкевіча да тэмы культуры ды пераацэнкі каштоўнасцяў. Па сутнасці гаворка ідзе пра тое, што дыялог наконт каштоўнасцяў перадусім адбываецца не ў рацыянальнай, але ў эстэтычнай

плашчыні. То бок каштоўнасці для нас – перадусім справа густу, інтуітыўнага прыняцця ці адмаўлення. Мы звяртаемся да фактаў гісторыі ды сучаснасці праз розныя мастацкія формы і глыбока перажываем іх на ўзроўні светапогляду.

Эстэтычны ўплыў мастацтва на наш светапогляд звычайна нашмат большы, чымся любая рацыянальна збудаваная аргументацыя, бо каштоўнасці збольшага прымаюцца на веру, іх неабходнасць цяжка давесці іншаму чалавеку, калі ён не падзяляе іх наўпрост. Таму камунікацыя на тле культуры высілкамі літаратараў, музыкаў, архітэктараў ды іншых павінна ствараць прастору публічнага абмеркавання нацыянальных каштоўнасцяў, правакаваць іх змены і развіццё.

Напрыклад, на што ўказвае Мацкевіч, можна ажыццявіць літаратурнымі сродкамі зварот да біяграфіі Тадэвуша Касцюшкі і паказаць ягоную ролю ў станаўленні айчыннай гісторыі ды нацыянальнага характару, каб адвярнуць культуру ад замілавання чужымі каштоўнасцямі (тым жа Сувораўым). Разбурыць на ніве культуры помнік Леніну і паставіць на яго месцы помнік, напрыклад, Сапегу, Каліноўскаму або Храптовічу – гэта задача для мясцовага інтэлектуала і дзеяча культуры. Каб нашыя дзеці гадаваліся на тле не толькі савецкай, але і айчыннай культурніцкай спадчыны, бо мы маем насамрэч уласныя адметныя ўзоры і не абавязаныя карыстацца чужымі.

«*Культура шматстайная, і мы можам браць з яе толькі малую частку таго, што ў ёй ёсць, транслявацьгэтую частку ў будучыню і рэалізоўваць цяперака. Але калі гэта так і ёсць, дык чаму мы не абіраем гэтай малой часткі свядома? Чаму некрытычна транслюем і рэалізуем толькі тое, што нам засталося ад савецкага мінулага? У сучаснай Беларусі ёсць і тыя, хто адмаўляецца ад савецкай спадчыны і, прымаючы нейкую іншую частку культуры, транслюе і рэалізуе яе. Можа, яны маюць рацыю? Можа быць. Але больш важным ёсць крытыка і асэнсаванне. Нельга бессэнсоўна нешта браць у будучыню, а нешта забываць у мінулым*» (с. 96).

Тут, натуральна, адбываецца адыход ад канцэпцыі «чыстага мастацтва дзеля мастацтва» ды ідзе апеляцыя да сацыяльных функцыяў мастака. Як некалі сцвярджаў старажытнагрэцкі філосаф Платон у сваёй знакамітай «Палітэі», мастацтва – зусім не бясшкодная з'ява для развіцця грамадства, і мы мусім пільна сачыць за тым, што насамрэч даюць людзям мастакі. Прыгожыя ды годныя прыклады дабрачыннага жыцця і душэўнай гармоніі або спекуляцыю на нізкіх пачуццях ды ўцягванне ў апрычонае адчуванне (эстэзіс). Платон выносіць суворы вырак мастакам: калі іхная творчасць шкодная або бясплённая для грамадства, дык грамада зусім не мусіць падтрымліваць гэткіх творцаў і мае іх выпраўляць у выгнанне.

Вырак аўтара менш суворы, хаця і адназначны для дзеячаў культуры: яны павінны адмовіцца ад прагі «чыстай», абстрактнай творчасці і зноў далучыцца да грамадскага дыялогу пра каштоўнасці, зрабіцца

авангардам такой камунікацыі. Яны мусяць эстэтычна пераасэнсоўваць гістарычную спадчыну і найноўшыя падзеі ды ствараць на іх тле мастацкія творы, што будуць уплываць на нацыянальны светапогляд. Ім трэба актыўна сачыць за публічнымі дыскусіямі наконт нашых каштоўнасцяў і быць іх выбітнымі рэзанатарамі. «*Для дасягнення поспеху ў пераацэнцы каштоўнасцяў неабходна ўключэнне дзеячаў мастацтва ў шчыльную камунікацыю наконт найбольш важных і вострых пытанняў сучаснасці. Прадметам такой дыскусіі ёсць сутыкненні нормаў і ўзораў, што прэтэндуюць на статус каштоўнасцяў ды ідэалаў у беларускім грамадстве*» (с. 57).

Цікавая таксама сама форма напісання кнігі. Перадусім гэта дыялог аўтара са сваім крытыкам: яны разам спрабуюць у сакратычнай манеры дамагчыся плёну ў абмеркаванні азначаных пытанняў. Гэта дае магчымасць разважаць наконт узнятых праблемаў не тэзісна, а разгорнута, далучаючы чытача да дыялогу з аўтарам. Чаго нам насамрэч не стае, дык гэта нацыянальнага дыялогу, хаця б і ў лакальным фармаце. «*Але ўдзельнікамі гэтай размовы будуць і нашыя нашчадкі. І ўжо цяпер, на гэтай стадыі размовы пра нашую з імі агульную будучыню, мы павінны пра іх памятаць, каб ім не даводзілася катэгарычна адкідаць нашыя каштоўнасці ды ідэалы. Пераацэньваць яны іх усё адно будуць, але калі мы крытычна і асэнсавана паставімся да каштоўнасцяў ды ідэалаў – і сваіх, і нашых продкаў, дык зможам разлічваць на гэткія ж адносіны і з боку нашчадкаў*» (с. 98).

Безумоўна, да некаторых аспектаў аўтарскай рэканструкцыі можна паставіцца крытычна. Напрыклад, да часам наіўна-рацыяналісцкага падыходу да творчага працэсу і культурнай камунікацыі, які шмат у чым спрашчае гэтыя з'явы дзеля давядзення аўтарскай пазіцыі на карысць магчымасці праграмавання культуры. Хаця Мацкевіч слушна піша, што няма наўпроставых механізмаў кіравання каштоўнасцямі ў культуры: такія чыннікі, як грошы, дзяржаўная або прыватная падтрымка і гэтак далей, адно ўскосна стымулююць працэс творчасці. Але пры гэтым аўтар уважае бясспрэчным тое, што мастак, які далучыўся да грамадскай палемікі ды заняў творчую і грамадзянскую пазіцыю, зможа надалей істотна ўплываць на культурную камунікацыю ўласнымі творамі.

На жаль, не ўлічваецца, што ўнёсак творцы можа мець зусім адваротны ўплыў на грамадскую свядомасць, і гэта робіць працэс камунікацыі куды больш спантанным і непрадказальным. Незалежна ад таленту, адныя творы моцна ўплываюць на каштоўнасці людзей, а іншыя прамінаюць, не пакінуўшы і следу. Рацыянальна абраная пазіцыя творцы спрыяць пэўным каштоўнасцям зусім не абавязкова вядзе да пазітыўнага выніку.

Таксама шмат хто можа не пагадзіцца з паасобнымі гістарычнымі рэканструкцыямі аўтара, бо нацыянальная гісторыя дасюль застаецца абсягам разнастайных спрэчак, што, зрэшты, і не блага. Так, напрыклад, настойлівае падкрэсліванне ролі

Тадэвуша Касцюшкі ў нацыянальнай гісторыі, прынятае аўтарам за ўзор, можа сустрэць неразуменне сярод знаўцаў гісторыі беларускага нацыянальнага руху. «Літвін» паводле нараджэння, Касцюшка нездарма лічыцца героем менавіта польскай нацыянальнай гісторыі. Сваімі дзеяннямі дыктатара рэвалюцыйнага ўрада ён збольшага спрычыніўся да росквіту польскай нацыянальнай ментальнасці для адраджэння Рэчы Паспалітай. У гэтым кантэксце пошукі этнічнага (беларускага або літоўскага) самавызначэння гістарычнай «Літвы» выглядалі трохі чужымі і нават варожымі, што дэманструюць ягоныя дзеянні супраць Найвышэйшай Літоўскай Рады.

У той самы час, напрыклад, этнічны паляк Якуб Ясінскі, абвінавачаны паплечнікамі ў «літоўскім сепаратызме», нашмат больш зрабіў для паўстання тутэйшага нацыянальна-вызвольнага руху. Але тое, што Мацкевіч наогул уздымае пытанне ўшанавання ў грамадстве і культуры нацыянальных герояў, – надзвычай важна і плённа.

Магчыма, камусьці падасца, што такі падыход да гісторыі ды культуры сведчыць пра валюнтарызм і аматарства, але важна, што ні гісторыя, ні культура не мусяць быць сакральнымі выспамі для нацыі. Яны мусяць быць прасторай для сур'ёзнай працы і мыслення, нават для пераацэнкі таго, што падаецца відавочным здабыткам, кшталту выбарнасці манарха, амаль прадстаўнічай дэмакратыі ў ВКЛ XVI стагоддзя або рэлігійнай талерантнасці.

Галоўны ўрок, які дае чытачам аўтар, – у тым, што мы павінны вельмі клапатліва ставіцца да сваёй будучыні, уважліва ўглядаючыся ў мінулае. Мы не мусім быць абыякавымі да таго, дзе мы жывем і як, на якіх каштоўнасцях грунтуецца нашая паўсядзённасць. Для гэтага нам трэба ўвесь час праводзіць пераацэнку ўласных каштоўнасцяў на матэрыяле гісторыі ды культуры Беларусі. Не проста быць, а звацца людзьмі. Гэтая думка вартая пільнай увагі.